

## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Магілёўскія будаўнікі ўсяго толькі на трэць выконваюць заплянаваныя аб'ёмы. На нарадзе ў гарвыканкаме адказныя за будаўніцтва асобы сьцьвярджалі, што плян у 140 тыс. кв. мэтраў жыльля хутчэй за ўсё будзе правалены. Усе сыйшліся на тым, што грошай не хапае. Мясцовая "вэртыкаль" прыняла рашэньне аб утварэньні адмысловага будаўнічага фонду, куды ўсе магілёўскія прадпрыемствы мусяць уносіць 1% ад прыбытку. Але мала веры, што той фонд уратуе. У прадпрыемстваў проста няма прыбыткаў.

У магілёўскіх вытворцаў рэнтабэльнасьць імкнецца да нуля. За паўгады яна зьменшылася яшчэ на 5%. А можа, яна ўжо даўно адмоўная, і толькі статыстычныя хітрыкі выводзяць віртуальны рост. Але нават афіцыйныя мітатворцы ня ўсё хаваюць. Напрыклад, лічбы, што выдае наш абластат, звычайна ніхто не супастаўляе. А гэта даволі цікава. Так, за першыя паўгады запасы тавараў на складах павялічыліся яшчэ на мільярд рублёў, на 5% узрасьлі страты працоўнага часу. А вось рэнтабэльнасць зьменшылася на тыя ж 5%. Як сказаў у прыватнай гутарцы кіраўнік аднаго зь мясцовых заводаў, "чым далей працуем, тым менш разумеем, навошта".

Вядома, што людзі зараз мусяць эканоміць на чым можна. Праўда, ня ўсюды гэта варта рабіць. Напрыклад, у грамадзкім транспарце. Гарадзкія тралейбусныя кантралёры, напрыклад, з студзеня выкрылі 3140 "зайцоў". Штрафы, спагнаныя з гэтых людзей, прынесьлі 2,5 мільёна рублёў. Добры давесак да бюджэту, але ладная страта ў сямейнай казьне. Нездарма некаторыя грамадзяне так моцна не хацелі плаціць, што грошы зь іх забіралі празь міліцыю. Нават складалі пратаколы й штрафавалі паводле артыкулаў адміністрацыйнага кодэксу.

Аказваецца, бьюцца ў нашым войску ня толькі салдаты. Бывае і з афіцэрамі тое ж. Да 10 гадоў зьняволеньня можа атрымаць маёр адной з магілёўскіх вайсковых частак. Ён зьбіў свайго камандзіра, падпалкоўніка. Як лічыць сьледзтва, афіцэр так цяжка "парушыў субардынацыю" з прычыны сваёй недысцыплінаванасьці і нежаданьня выконваць загады начальніка. Праўда, пакуль невядома, наколькі разумныя былі тыя загады. Ды й агульная сытуацыя ў войску мала спрыяе дысцыпліне.

Улады імкнуцца ўсё пракантраляваць. Калі прэзыдэнт у нас вядомы сваёй здольнасьцю разьбірацца ва ўсіх сфэрах жыцьця, то і ягоныя кантралёры, па вызначэньні, таксама спэцыялісты па любым пытаньні. Іх праверкі ў наш час – гэта як эпідэмія чумы для ахвяраў. Амаль 700 праверак яны правялі за паўгады. Парушэньні знайшлі ў 99% выпадкаў. Штрафаў панакладвалі на паўтары мільярды "новых" рублёў, 60 чалавек звольнілі, каля 1000 пакаралі ў адпаведнасьці з артыкуламі адміністрацыйнага кодэксу. Вы заўважылі станоўчыя зьмены ў нашым жыцьці? Вось і я не заўважыў. А кантралёры працягваюць працаваць.

Пабываў у вобласьці прэм'ер-міністар Ярмошын ды зьехаў. Гучных заяваў не рабіў, з пасадаў не здымаў, грошай больш за іншых начальнікаў не абяцаў. Пабываў у Быхаўскім раёне, паўздыхаў, пабачыўшы традыцыйную нашую безгаспадарлівасьць. Дый што казаць, ён і сам такі ж гаспадарчы кіраўнік, як і ўсе. Жывуць па загадах начальніка, працуюць паводле тэлефоннага права, чакаюць інструкцыяў зьверху ды дбаюць пра тое, каб месца не згубіць.

У вайсковай частцы пасёлку Вейна міліцэйскае начальства правяло вайсковы савет. Так і хочацца ўзяць апошнія два словы папярэдняга сказу ў двукосьсі. Але, хто ведае, мажліва і было аб чым раіцца камандзірам палкоў і брыгадаў МУС краіны. Камандаваў "парадам" намесьнік міністра, генэрал-маёр Жадобін. Паколькі нашая дзяржава ўжо ёсьць паліцэйскаю, можа, абмяркоўваліся магчымыя дзеяньні да будучага адпору падыходзячага да межаў NATO? Цяжка сказаць, у афіцыйных паведамленьнях нічога не канкрэтызуецца...

У магілёўскім тралейбусе-гармошцы адбылася надзвычайнае здарэньне. Ад замыканьня загарэліся драты. Кіроўцу прыйшлося шмат папацець, каб спыніць агонь. Людзям загадалі тэрмінова сыйсьці зь небясьпечнай машыны. Прычыны ж гэтай аварыі ў старасьці абсталяваньня – парку сёлета споўнілася 30 гадоў. Усе тралейбусныя дротавыя камунікацыі адпрацаваныя на 50%. Нормы дапускаюць 15%, але каб адпавядаць нормам, патрэбна ўкладаць грошы. А грошай, кажам у тысячны раз, няма.

SOS крычаць беларускія лікёра-гарэлачныя заводы: яны церпяць вялікія страты, у іх няма ніякага прыбытку, яны ўжо няздольныя набываць сыравіну, выплочваць рабочым заробкі і аддаваць дзяржаве падаткі. Не выключэньнем і славуты Клімавіцкі завод. На гэты момант выраблена на 15% меней за леташнія паказчыкі. Але й з гэтага прадалі толькі каля 70%. Дзяржава, якая свой бюджэт заўжды і ў значнай ступені папаўняла за кошт "алькагольных" пасТупленьняў, апасьля ўведзеных ёю новых нормаў і падаткаў, згубіла і гэтую, амаль валютную крыніцу. Мяркуйце самі: з 1500 рублёў (кошт гарэлкі) пасьля ўсіх выплат вытворцы застаецца 118 рублёў. А толькі сабекошт бутэлькі складае 140 рублёў. Імкненьне вырашыць фінансовыя праблемы не праз рэфармаваньне эканомікі, а праз рабаваньне вытворцаў, працяглы час дазваляла затыкаць шматлікія бюджэтныя дзіркі. Але зараз і гэта ўжо не спрацоўвае.

*Да сутрэчы,*
*Сымон Глазштэйн.*

### АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ Ў СПРАВЕ ДЗЬМІТРЫЯ АБАДОЎСКАГА

# Калегія аблсуда вярнула справу на паўторнае слуханьне

***У аўторак калегія абласнога суда пад старшынствам Уладзімера Пуцілы разгледзела касацыйную справу Дзьмітрыя Абадоўскага.***

Падсудны 16 дзён трымаў галадоўку. Ён абраў такую скрайнюю форму пратэсту супраць несправядлівасьці, што праявілася падчас сьледзтва і суда. *("ТМ" сачыў за разьвіцьцём справы ды падрабязна пра яе паведамляў).*

Напярэдадні з просьбаю спыніць галадоўку да Дзьмітрыя зьвярнуліся вядомыя ў Беларусі праваабаронцы. Аднак, паводле словаў бацькі, Сяргея Абадоўскага, які выступае ў справе сына абаронцам, хлопец у сваім чаканьні касацыйнага разгляду справы дайшоў мяжы і меўся пайсьці нават на сухую галадоўку.

Абласная калегія пасьля знаёмства з матэрыяламі справы выслухала аргумэнты бакоў. Як і ў судзе першай інстанцыі, абарона настойвала на адмене абвінавачваньняў праз тое, што ў часе суда былі парушэньні, а таксама аніводзін з "доказаў" ня быў здабыты без парушэньня заканадаўства.

Акрамя бацькі, у судзе браў удзел грамадзкі абаронца Аляксандар Александровіч, які прадстаўляў Магілёўскі праваабарончы цэнтар. Між іншым, яшчэ на першым паседжаньні суда пра сваё жаданьне ўзяць удзел у ім выказвалі прадстаўнікі шасьці грамадзкіх аб'яднаньняў. Зь іх быў дапушчаны толькі адзін – ад клюба безпрацоўных "Пошук". Грамадзкі абаронца паспрабаваў у сваім выступе засярodзіцца на маральным баку гэтай гучнай справы. Аднак судзьдзя перапыніў яго.

Прадстаўнік пракуратуры прапанаваў накіраваць справу на перагляд у той жа суд, але іншаму складу суда. І судовая калегія пасьля перапынку агучыла вырок калегіі, які быў амаль што ідэнтычным пракурорскай прапанове. Справа такім чынам накіраваная на перагляд.

Карэспандэнт "Тыднёвіка" па выхадзе з залі калегіі аблсуда запытаў Сяргея Абадоўскага пра ягоныя адчуваньні. Вось што ён адказаў:

– Я адчуваю, што мы на правільным шляху. У мяне зьявілася надзея, што справядлівасьць возьме верх і разгляд справы новым складам суда прывядзе да вызваленьня сына. Я ўдзячны ўсім сябрам і калегам, што падтрымоўваюць нас.

***Валадар ЦУРПАНАЎ***

**Ад рэдакцыі.** "ТМ" зычыць мужнасьці і трываласьці Дзьмітрыю Абадоўскаму й ягонай сям'і.

## Удзячнасьць за падтрымку

***Рэдакцыя "ТМ" атрымала копію ліста Дзьмітрыя Абадоўскага да вядомых беларускіх праваабаронцаў, у якім ён, у 16-ты дзень галадоўкі, выказвае ім словы ўдзячнасьці за ўвагу да ягонае справы. Таксама цяпер хлопец задумваецца над тым, каб спыніць галадоўку пратэсту.***

*Правозащитникам:*
*В. Стремковской*
*А. Беляцкому*
*О. Волчку*
*С. Мартовской*
*В. Щукину*
*Б. Звозскову*

*Ободовского Д.С., узника*
*УЖ 15/ст-4 г. Могилева*

*Уважаемые друзья!*

*Позвольте именно так Вас называть, потому что в очень трудный для меня момент Вы оказались рядом и поддержали меня в борьбе с тем бесправием, которое власти развязали против меня и моей семьи.*

*Благодаря Вашему участию моя голодовка не осталась без внимания: ч/ прокуратурой начато расследование законности обвинения против меня, а также на 18 июля назначено кассационное рассмотрение моих жалоб. Кроме того, мое дело взято на контроль КНГ ОБСЕ в Беларуси.*

*Ваше письмо ко мне заставило меня серьезно задуматься о прекращении голодовки.*

*Очень признателен Вам за внимание ко мне.*

*С искренним уважением к Вам:*
*Дмитрий Ободовский*
*15.07.2000г, 16-й день голодовки*



### Днямі споўнілася 50 год Сяргею АБАДОЎСКАМУ

***За два апошнія дзесяцігодзьдзі Сяргей зьведаў столькі падзеяў, узрушэньняў, перамогаў і паразаў, якіх хапіла б на некалькі паўнавартасных жыцьцяў.***

Ён стаў вядомым напрыканцы 80-х, калі першая хваля дэмакратычных узрушэньняў выштурхнула яго ў актывісты рабочага руху. Ён па-быў функцыянэрам Свабодных прафсаюзаў, дэмакратычным палітыкам, грамадзкім дзеячом. І нарэшце стаўся тым, кім ёсьць сёньня: праваабаронцам. У адзіночку і зь сябрамі кансультуе пакрыўджаных уладай, бегае разам зь імі па міліцыях і судах, альбо нават замест іх. Ён упарта і стойка змагаецца за справядлівасьць, сумленнасьць і законнасьць. Гэтыя паняцьці ня маюць апірышча ні ў грамадзтве нашым, ні ў дзяржаве. Беларускія жахлівыя парадкі могуць абваліцца ў адзін момант, а могуць пратрымацца яшчэ доўгія гады. Таму застаецца толькі пажадаць Сяргею духовае й фізычнае моцы й вытрымкі на наступныя яшчэ, як мінімум, 50 гадоў...

***Зь юбілеем, Сяргей!***

***Рэдакцыя "Тыднёвіка Магілёўскага"***

